**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№15(627) 12 красавіка 2012 года.

Кошт свабодны.




Рыбакоў шмат, а клёву няма!
Канал ля вёскі Казлоўшчына.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## У беларускіх закінутых вёсках плануецца развіваць турызм

**У беларускіх закінутых вёсках плануецца развіваць турызм, паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга 9 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, прапанова па развіцці турызму ў закінутых вёсках, дзе сёння не засталося ніводнага жыхара, паступіла ад турыстычных арганізацый і саміх турыстаў.

Як паведаміў Шульга, сёлета плануецца стварыць турыстычныя вёскі ў закінутых паселішчах у Капыльскім раёне Мінскай вобласці і Расонскім раёне Віцебскай вобласці. Падобная вёска ўжо створана ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці, дзе для прыёму турыстаў "аднолены амаль поўнасцю дамы" закінутага населенага пункта.

«Добры, на мой погляд, праект, годны ўвагі. Тым больш, што гэтыя вёскі, дамы, якія там засталіся, як правіла, знаходзяцца ў вельмі маляўнічых месцах: гэта ці хутарная сістэма, ці на беразе ракі, у лесе», — сказаў Шульга. Ён выказаў надзею, што праз год-два такія вёскі будуць карыстацца папулярнасцю ў турыстаў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН*

## Прафесіянал сваёй справы

■ **В.В. Кулакоўскі,** *старэйшы інспектар ГМВСО Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі.*

Сучасны міліцыянер – гэта ў першую чаргу прафесіянал з высокімі маральнымі якасцямі, гатовы ў любую хвіліну прыйсці на дапамогу. Менавіта такім з'яўляецца малодшы інспектар групы міліцэйскай, ваенізаванай і вартаўнічай аховы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь прапаршчык міліцыі С.С. Волкаў

Міліцэйскую прафесію ён абраў пасля службы ў войску, добрасумленна вывучыў яе асновы і цяпер у сваёй працы імкнецца выкарыстоўваць усё новае і перадавое. Прапаршчык міліцыі С.С. Волкаў заўсёды сабраны, адказны, ветлівы і ініцыятыўны. Менавіта дзякуючы гэтым якасцям ён цесна наладзіў кантакт з кіраўніцтвам ААТ «Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат», якое шануе яго як прафесіянала сваёй справы. Ён умее хутка прымаць рашучыя дзеянні ў адносінах да грамадзян, якія парушаюць грамадскі парадак, замахваюцца на асабістую і ведамасную маёмасць. У 2011 годзе ім асабіста былі затрыманы 23 асобы, якія здзейснілі розныя адміністрацыйныя правапарушэнні, таксама прымаў актыўны ўдзел у выяўленні парушэнняў антыалкагольнага заканадаўства.

Таксама С.С. Волкаў з'яўляецца кіраўніком вартаўнічага падраздзялення аддзела аховы, у яго ў падначаленні знаходзіцца 19 работнікаў вартаўнічай аховы, з кожным з якіх ён знаходзіць агульную мову. Ён з'яўляецца патрабавальным, але ў той жа час імкнецца зразумець, унікнуць у праблемы і цяжкасці сваіх падначаленых. У бядзе ці радасці сваіх работнікаў - ён заўсёды зможа іх падтрымаць, выслухаць і аказаць неабходную дапамогу, у якой яны маюць патрэбу.

Сам жа С.С. Волкаў на дасягнутым спыняцца не збіраецца. У яго найбліжэйшых планах на будучыню - атрыманне вышэйшай адукацыі, удасканаленне ў прафесіі. З яго імкненнем да самаразвіцця гэта цалкам здзейсныя жаданні.

## МНС інфармуе

**на 10.04.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 403;
Гібель людзей – 64, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2285,7 млн. руб.

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 21;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 121 550 000 руб.

Шаркоўшчынскі раён

# Спакусіў д’ябал

■ Станіслаў Раманчук

**Розныя справы крымінальнага ўхілу прыходзіцца штодзень разглядаць судовым работнікам.**

Але нават спецыялістам са стажам, працуючым у судзе Шаркоўшчынскага раёна, было неяк дзіўна судзіць зусім не бедную жанчыну, якая стала абкрадаць … мясцовыя могілкі. Жыхарцы вёскі Ручэй за такія ўчынкі прысудзілі нядаўна 1 год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выкання прыгавору на такі ж тэрмін. Акрамя гэтага ёй прыйшлося прадаць і сваю машыну, каб разлічыцца за нанесены маральны урон пацярпелым у гэтай невераграднай гісторыі. Яшчэ летась, пасля вяртання на аўто з богаслужэння ў царкве, яна заехала на могілкі і прыхапіла адтуль дамоў з адной магілкі кветкі з пластыкавымі кантэйнерамі. Далей - болей, такія “справы” пайшлі! Мінулагодняй восенню гэта дама скрала з могілак вёскі Лапунова ўжо некалькі дэкаратыўных кветак-вазонаў цудоўнай мастацкай коўкі. Гэты ўчынак вельмі абурыў родных памерлых, была пададзена заява ў міліцыю, напісаны аб’явы па раёну з просьбай вярнуць каштоўнасць за ўзнагароджанне. Апасаючыся быць раскрытай, прагная да нажывы зладзейка дадумалася здаць гэтыя металічныя кветкі разам з іншым металаломам у прыёмны пункт. Але, на яе бяду, у той дзень іх прыкмеціў мясцовы бомж-здатчык лому і паведаміў за грошы гэту інфармацыю пацярпелым. Справай тэхнікі для міліцыі было затым правераць па кнізе здатчыкаў падазроных і знайсці пры вобыску на падвор’і зладзейкі іншыя рэчавыя доказы яе абуральнай дзейнасці на мяжы прыстойнасці.

Мёрскі раён

# Любі свой край

■ Чэслаў Якубовіч

**У кожнага з нас у маладосці быў адзін альбо некалькі любімых настаўнікаў, на якіх хочацца паходзіць і ў дарослым жыцці.**

Вось і ў Мёрскім раёне многія дзеці з удзячнасцю ўзгадваюць апантанага педагога-краязнаўцу Вітольда Ермалёнка, які шмат гадоў кіруе ў СШ №3 райцэнтра гуртком “Арганаўты мінулага”. Туды яшчэ пяцікласнікам прыйшоў вясковы хлапчук Ігар Кандратовіч і стаў адным з любімых вучняў гэтага настаўніка. А сёлета даследчая праца падлетка сенсацыйна заняла 1-е месца ў рэспубліканскім конкурсе вучнёўскіх работ “Жыву ў Беларусі і тым ганаруся” на лепшы летапіс населеных пунктаў глыбінкі. Журы гэтага конкурсу, сапраўды, уразіла, што нават на 200 старонках вучань 10 класа так грунтоўна і прафесійна даследваў гісторыю сваёй роднай прыгараднай вёскі Чэрасы. Як пачынаючы навуковец, Ігар удзельнічаў у археалагічных даследваннях родных мясцін, асабліва цікавіўся гісторыяй мясцовай царквы, вакол якой у XIX стагоддзі паўстала гэта вёсачка. Цяпер яна стала аграгарадком з насельніцтвам больш трохсот чалавек. Хлопец пад кіраўніцтвам свайго настаўніка адшукаў розныя звесткі пра родны край, заснаваны ў старажытнасці яшчэ фіна-уграмі. Тут у зямлі знайшлі больш 60 розных манет, якімі карысталіся продкі. Вучань адшукаў і цікавыя звесткі пра самага славутага земляка, генерал-маёра авіяцыі Віталя Гардзілоўскага, які вызначыўся пры штурме Берліна. Сам Ігар мае ўсе дадзеныя стаць сапраўдным вучонымгісторыкам.

Пастаўскі раён

# Самы спартыўны райцэнтр

■ Кастусь Александровіч

**У чарговы раз Паставы пацвердзілі свой імідж самага спартыўнага сярод райцэнтраў Віцебскай вобласці.**

Мясцовая валейбольная каманда “Атлант-Д” датэрмінова, за тур да завяршэння XXI чэмпіянату краіны заваявала званне чэмпіёнаў Беларусі сярод мужчын у 1-й лізе. Поспех пастаўчан цалкам заканамерны, бо дагэтуль яны 6 разоў станавіліся прызёрамі нацыянальнага першынства, а трое мясцовых ігракоў уваходзяць у асноўны склад мужчынскай беларускай зборнай. Акрамя гэтага віда спорту тут вельмі паспяхова развіваецца і самая папулярная ў свеце гульня мільёнаў – футбол. Футбольная школа пры мэблевым цэнтры неўзабаве першай у Беларусі атрымае новы юрыдычны статус і стане футбольнай акадэміяй. На стадыёне ПМЦ хутка з’явіцца найсучаснейшае поле з падагрэвам апошняга пакалення са штучным пакрыццём, якога ў Беларусі пакуль не было. Пры ім будзе пабудаваны комплекс катэджаў для размяшчэння каманд майстроў. Ужо дзейнічае тут трохзоркавы гатэль, футбольны інтэрнат для юных талентаў з усіх куткоў краіны. Летась у горадзе адкрыліся футбольныя спецкласы, а ўсяго займаюцца футболам 170 дзяцей і падлеткаў розных узростаў. У футбольную школу Пастаў мараць трапіць многія адораныя хлопцы, бо ўзровень падрыхтоўкі адпавядае міжнародным стандартам, і тут пачалі рыхтаваць прафесійных футбалістаў, якімі цікавяцца нават замежныя клубы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 12.04.12 | | | | Пятніца 13.04.12 | | | | Субота 14.04.12 | | | | Нядзеля 15.04.12 | | | | Пнд. 16.04.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +4 | +11 | +9 | +6 | +7 | +12 | +8 | +5 | +6 | +11 | +10 | +7 | +9 | +15 | +12 | +11 | +11 | +13 |
| Ціск | 743 | 742 | 740 | 740 | 740 | 739 | 739 | 741 | 742 | 742 | 743 | 744 | 744 | 743 | 742 | 742 | 742 | 740 | 739 |
| Вільготнасць | 88 | 85 | 56 | 76 | 77 | 86 | 76 | 88 | 92 | 100 | 88 | 86 | 88 | 96 | 62 | 73 | 89 | 94 | 85 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-В | 5 Ю-В | 4 Ю | 3 Ю-В | 4 Ю | 4 Ю | 4 Ю-З | 3 Ю-З | 2 З | 2 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 6 Ю-В | 4 В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В |

# Лічба нумара

## 3.8-5%

- на столькі ў пачатку красавіка, па ўзгадненню з Міністэрствам эканомікі, падаражэлі ў Беларусі асобныя маркі цыгарэт. Для простых курыльшчыкаў з невысокімі даходамі гэта падаражанне засталося незаўважаным, бо цэны на цыгарэты першай цэнавай групы да 3,5 тысяч рублёў за пачку засталіся ранейшыя. Аднак у пачатку вясны ўжо ўсе курыльшчыкі за сваю шкодную для здароўя забаву сталі плаціць болей нават у сярэднім на 2,6 – 12,1 %.

На гэты раз дзяржава вырашыла закрыць частку існуючых эканамічных праблем за кошт багаценькіх беларусаў, якія прывыклі зацягвацца элітнымі, у асноўным імпартнымі цыгарэтамі. Іх завозіць у краіну дзяржпрадпрыемства “Беларусь гандаль”, а таксама выраблаюць фабрыка “Нёман” у Гродна і сталічнае ААТ “Тытунь Інвест”. Тым часам беларускі Мінфін аб’явіў трывожныя звесткі, што рэспубліканскі бюджэт пасля зімы стаў дэфіцытным і склаў 0,9 трлн. рублёў, альбо 1,3 % ВУП краіны. Для параўнання, у пачатку года сёлета ў студзені наадварот было значна лепей і тады даходы апярэджвалі расходы на 0,44 трыльёны.

А вось абяцанага падаражання праезду да 1500 рублёў за адну паездку спачатку ў беларускай сталіцы з 1 красавіка не адбылося, бо ўмяшаўся Мінюст Беларусі. Але відавочна, што такое падаражанне ў Мінску (увялі з 5 красавіка), а затым і ў рэгіёнах было не за гарамі. Летась для беларускіх пасажыраў, хто запамятаваў, цэны на талончыкі і жэтоны ў метро павышаліся 4 разы і амаль падвоіліся, бо год назад мінчане ездзілі вясной яшчэ за 700 рублёў. Напрыканцы года летась пасажыры ў беларускай сталіцы закуплялі іх пачкамі, узнік ажыятаж і метрапалітэн вымушаны быў заказаць дадаткова 5 млн. штук пругляочкоў, бо цана на праезд падскочыла адразу на 37 %.

Як ні сумна, але наша краіна па-ранейшаму застаецца лідарам на постсавецкай прасторы і ў свеце па росту цэн і пасля грандыёзнага абвалу жыццёвага ўзроўню ў 2011 годзе. У сувязі з гэтым і адсутнасцю працэсу прыватызацыі Беларусь не атрымала трэці транш крэдыту ад Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, МВФ таксама адклаў перамовы з РБ. На стале ў беларускага нязменнага лідара ляжаў на подпіс спіс прыватызуемых айчынных прадпрыемстваў. Аднак гэты дакумент А. Лукашэнка падпісваць не стаў, правёў чарговую спецыяльную нараду.

На вышэйшым узроўні было заяўлена, што абвальнай прыватызацыі ў краіне не будзе. Яна будзе праходзіць, як і раней, выбарачна, без складання адпаведных спісаў па продажу беларускіх прадпрыемстваў, але, як паабяцалі, дапоўніцца новым канцэптуальным дакументам. “Не ў тым пытанне, каб прыватызаваць краіну для таго, каб камунебудзь (МВФ, Еўрасаюзу, Амерыцы, Расіі ) спадабацца”, - так патлумачыў сваю пазіцыю кіраўнік краіны. На гэтым фоне апошнім часам нечакана пачалася чарговая, на гэты раз ужо “паветраная вайна” паміж Беларуссю і яе асноўным і адзіным саюзнікам з Расіі.

Разборка паміж імі дайшла да таго, што айчынны авіяперавозчык “Белавія” абвінавацію расійскі “Аэрафлот” у спробе рэйдарскага захопу. На фоне гэтага канфлікту цікава, ці будзе Расія, абараняючы інтарэсы сваіх вытворцаў, перашкаджаць стварэнню ў Беларусі завода па вытворчасці кітайскіх легкавых аўтамабіляў. На заходнім напрамку дзяржграніцы пасля прынятых ЕС новых санкцый у адносінах РБ у Брусэлі адначасова аб’явілі аб запуску Еўрапейскага дыялога аб мадэрнізацыі Беларусі і пашырэнні кантактаў з больш шырокімі групамі беларускай нацыі.

Для беларускага кіраўніцтва ёсць падстава падумаць аб наладжванні ўзаемапаразумення з аб’яднанай Еўропай, бо з суседняй Украінай ЕС можа адкрыць зону свабоднага гандлю і падпісаць з ёй Дагавор аб асацыяцыі. А сама Беларусь неўзабаве ўступіць у чарговую кампанію па выбарах новага парламента. Беларусы толькі выйграюць, калі ў нас будуць добрыя канструктыўныя адносіны з усімі бліжэйшымі суседзямі. Пакуль жа ўдалае геапалітычнае становішча па накірунку захад-усход, як бачна, спрацоўвае не ў поўнай меры нават на ўзроўні партнёрскіх адносінаў з Расіяй, якая істотна апярэджвае нас і ў пытаннях прыватызацыі, а цяпер і па ўзроўню жыцця насельніцтва.

## Дзень за днём

**У новы чорны спіс санкцый Еўрасаюза да Беларусі трапілі яшчэ 29 айчынных кампаній і 12 прыватных асоб, адказных за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека. Пасля гэтага беларускія ўлады не ўбачылі патрэбы ў знаходжанні ў краіне паслоў ЕС. Гэта абсурдная сітуацыя нявыгадная абодвум бакам канфлікту, да спынення гандлёвых адносінаў з ЕС справы, хутчэй усяго, не дойдуць. Рэальная зарплата ў РБ у студзені-лютым сёлета зменшылася на 1,5 %. Пасля адмены пераходу на летні час Беларусь стала на адну гадзіну бліжэй да Еўропы. Дамы, якія пустуюць, у сельскай мясцовасці з 1 верасня будуць зносіць хутчэй.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Вярхоўны прадстаўнік ЕС Кэтрын Эштан заявіла ў Брусэлі, што супрацоўніцтва з Беларуссю адновіцца толькі пасля вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітычных зняволеных.

**Венесуэла.** 57-гадовы прэзідэнт Уга Чавес зноў вылецеў на Кубу для праходжання новага курсу радыётэрапіі ад раку, ён кіруе краінай з 1999 года, хоча зноў перавыбрацца на 6 год.

**Іран.** Пасля ўведзеных ЕС і ЗША эканамічных санкцый супраць ягэрэзіўнага курсу краіны за год узровень жыцця іранцаў упаў у 2 разы, істотна аслабела і іранская валюта.

**ЗША.** Дзяржсакратар Х. Клінтан адзначыла, што ў выпадку правалу красавіцкіх перамоў "6" міжнародных пасрэднікаў па іранскай ядзернай праграме Тэгеран чакае вайна.

**Нарвегія.** Генсакратар Савета Еўропы Т. Ягланд на канферэнцыі па Беларусі заявіў, што і кіраўніцтву Расіі надакучылі парадкі ў РБ, Еўропа павінна дзейнічаць супольна з Масквой.

**КНДР.** Па дадзеных паўднёвакарэйскай разведкі, у самай закрытай краіне свету рэпрэсіравалі дзясяткі генералаў, шэраг з іх былі расстраляны за … выпіўку.

**Польшча.** МЗС краіны пацвердзіла, што аднаўленне паўнавартаснага палітычнага дыялогу з Беларуссю залежыць ад амністыі і рэабілітацыі яе палітычных зняволеных.

**Латвія.** Былы прэм'ер-міністр, дэпутат Еўрапарламента Івар Годманіс прызнаўся, што яго не пусцілі ў Беларусь і не далі ўязную візу, хоць ён быў супраць шырокіх санкцый да РБ.

**Украіна.** У рамках рэформы Узброеных сіл колькасць украінскай арміі ў бліжэйшыя 5 гадоў можа быць скарочана са 192 да 70 тысяч чалавек, сёлета – на 8 тысяч вайскоўцаў.

**Італія.** Вядомая кампанія Ferrari пачала выпуск звышхуткасных цягнікоў для ўнутраных ліній са спутнікавым ТБ, кіназалам і 11 вагонамі, яны здольныя разганяцца да 300 км/г.

**Літва.** Глава МЗС Аудроніс Ажубаліс заявіў, што ўжо паўгода беларускія ўлады ніяк не рэагуюць на прапановы ЕС аб аблягчэнні візавага рэжыму для простых грамадзян.

**Швейцарыя.** Згодна дадзеных камісарыята ААН па справах уцекачоў, летась падаў просьбы аб палітычным прытулку на Захадзе 1441 беларус, а ўсяго - 505 тысяч чалавек.

**Фінляндыя.** Урад краіны аднязначна выказаўся за перанос чэмпіянату свету па хакеі 2014 года з Беларусі ў іншую дзяржаву, фіны адны з мацнейшых у свеце ў гэтым відзе спорту.

**Расія.** У Санкт-Пецярбурзе затрымалі 33-гадовага беларускага кілера, які прызнаўся, што летам 2010 года за 100 тыс. расійскіх рублёў забіў вечарам у Маскве футбольнага трэнера.

**ЗША.** У Бостане (штат Масачусетс) белая кошка выпала з акна кватэры на 19-м паверсе і засталася цудам жывой, не атрымала ні траўм унутраных органаў, ні аднаго пералому.

# Кошт дзіцячых пуцёвак улетнікі сёлета павялічыцца амаль удвая



■ БелаПАН

**Ён цяпер будзе складаць прыкладна 1,5 млн рублёў.**

У прыватнасці, як паведаміў намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва пры Савеце міністраў Генадзь Балбатоўскі, калі летась сярэдні кошт пуцёўкі ў лагер з кругласутачным знаходжаннем складаў прыкладна 800 тыс. рублёў, то сёлета ён дасягне арыенціровачна 1,5 млн. рублёў.

Балбатоўскі адзначыў, што кошт будзе вар'іравацца ў залежнасці ад установы. Так, у Мінскай вобласці пуцёўкі традыцыйна таннейшыя ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі. У той жа час у Мінску і летась былі лагеры, знаходжанне ў якіх абыходзілася больш за мільён рублёў.

Паводле слоў спецыяліста, датацыя са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на патаненне адной пуцёўкі ў 2012 годзе, як і ў мінулым, складзе прыкладна 40% ад агульнага кошту.

У якасці датацыі на пуцёўку ў аздараўленчыя, спартыўна-аздараўленчыя лагеры з кругласутачным знаходжаннем у 2012 годзе выдзелена 605 тыс. рублёў, з дзённым знаходжаннем — 230 тыс., у профільныя аздараўленчыя лагеры з кругласутачным знаходжаннем тэрмінам не менш як 9 дзён — 235 тыс. рублёў.

Памеры гэтых датацый у 2011 годзе складалі адпаведна 310 тыс., 130 тыс. і 135 тыс. рублёў. Паводле дадзеных Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва, сёлета на летніх канікулах у лагерах за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і дзяржаўнага сацыяльнага страхавання змогуць аздаравіцца 401,6 тыс. дзяцей: у Мінску — 77,9 тыс.; у Мінскай вобласці — 64,5 тыс.; у Брэсцкай — 63,4 тыс.; у Віцебскай — 55,2 тыс.; у Магілёўскай вобласці — 48,7 тыс.; у Гродзенскай — 48,5 тыс.; Гомельскай — 43,4 тыс. дзяцей.

Чакаецца, што ў лагерах з дзённым знаходжаннем летам адпачнуць 218,2 тыс. дзяцей, з кругласутачным знаходжаннем — 178,2 тыс., у профільных лагерах — амаль 31 тыс. дзяцей.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сёлета вясной на 41 тысячу гектараў, як пацвердзілі ў Мінсельгасхарчы Беларусі, узрастуць плошчы пад зернебабовыя і пасевы сланечніку (да 25 тысяч га), соі (18 тысяч).

**Пінск.** За парушэнні пажарнай бяспекі суд накіраваў на 3-4 гады калоніі-пасялення двух былых галоўных інжынераў холдынга "Пінскдрэў", там ад выбуху загінулі 14 чалавек.

**Слуцк.** У раёне і іншых рэгіёнах Мінскай вобласці прадоўжылі на 2012 год забарону на продаж пладова-ягадных він, тут абмежаванні на "чарніла" дзейнічаюць з чэрвеня.

**Астравец.** На пляцоўцы будучай АЭС пачалі ўзводзіць бетонны завод, на праект пойдзе 50 % айчынных будматэрыялаў, станцыя праслужыць 60 гадоў, пачне акупляцца ў 2034 г.

**Салігорск.** Упершыню БКК заключыла кантракт з буйнейшым пакупніком калійных угнаенняў з Кітая толькі на адзін квартал па цане 470 $/тона і дастаўкі ў яго порты.

**Мінск.** З нацыянальнага аэрапорта "Мінск-2" былі адменены ўсе авіярэйсы на Маскву ў сувязі з абмежаваннямі расійскага боку, ён забараніў дазвол на палёты самалётаў "Белавіі".

**Баранавічы.** Падпалкоўнік дзяржпажарнаглядy Віталь Пераход падчас прыёмкі новага пандуза ў доме райцэнтра паспеў злавіць на рукі хлопчыка, які выпаў з акна 2-га паверха.

**Магілёў.** Абласны цэнтр шакіравала, што ночу ў адным з маласямейных інтэрнатаў знайшлі з нажавымі раненнямі труп 4-месячнага хлопчыка, яго мог забіць п'яны бацька.

**Іванава.** У выхадны дзень ураганны вецер перавярнуў у райцэнтры спачатку кран прадпрыемства "Белсолад", а той пры падзенні - другую машыну, людзі не пацярпелі.

**Брэст.** Мясцовы рачны порт з-за спрыяльнага надвор'я раней звычайнага пачаў навігацыю і перавозкі пяску, судны порта "Пінск" пайшлі за прадукцыяй "Граніта".

**Мінск.** З-за грубых парушэнняў правілаў аховы працы прыпынілі ўзвядзенне "Чыжоўкі-Арэны", яна можа і не спатрэбіцца, калі са сталіцы перанясуць чэмпіянат свету па хакеі.

**Пружаны.** На працягу 4-х гадзін пажарныя змагаліся з буйным пажарам на мясцовым заводзе радыёдэталяў, дзе гарэлі склады на плошчы 2400 кв. метраў, людзі не пацярпелі.

**Нясвіж.** Афіцыйнае адкрыццё пасля маштабнай рэстаўрацыі комплексу будынкаў палаца Радзівілаў са спісу Сусветнага значэння ЮНЕСКА перанеслі на май-чэрвень 2012 года.

**Малaрыта.** Ля роднай вёскі недарэчна загінула на канікулах вучаніца 9 класа, якая папрасіла ў 58-гадовага знаёмага пакатацца на яго "Аўдзі-100" і перавярнулася на аўто.

**Мінск.** XXII нацыянальны футбольны чэмпіянат упершыню атрымаў тытульнага спонсара – "Альфа – Банк", у ім гуляюць 56 легіянераў, 21 - з Украіны, абнавіўся лагатып турніру.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** На палігоне бытавых адходаў з дапамогай інвестара са Швецыі змантыравалі ўстаноўку для атрымання звалачнага газу і вытворчасці з яе электрычнай і цеплаэнергіі.

**Наваполацк.** Прафкам адкрытага акцыянернага таварыства "Нафтан" прыгразіў судом шэрагу дзеячам апазіцыі ў выпадку ўвядзення ЕС эканамічных санкцый, забароны куплі беларускіх нафтапрадуктаў.

**Глыбокае.** Кіраўнік раёна Алег Морхат і іншыя кіруючыя работнікі пачалі здымацца і чытаць на камеру паэму Я. Коласа "Новая зямля", праект да Дня роднага пісьменства.

**Полацк.** У намінацыі "За ўклад у развіццё вёскі" пераможцам нацыянальнага конкурсу "Жанчына года – 2011 Беларусі" стала дырэктар ААТ "Блізніца" Вольга Баратынская.

**Віцебск.** Суддзя Першамайскага раённага суда горада Алена Жук трапіла ў спіс неўязных у ЕС за вынесены прыгавор па справе Сяргея Каваленкі, у ім зараз 243 чалавекі.

**Дуброўна.** На грані развалу, як высветліла праверка Дзяржкантролю, апынуўся мясцовы райбыткамбінат, даўгі па крэдытах выраслі ў 10 разоў, затраты на КПП сталі непад'ёмныя.

**Наваполацк.** У мясцовай друкарні запусцілі сучаснае абсталяванне з Індыі для друкавання 13 гарадскіх і раённых газет у друку з прадукцыйнасцю да 30 тысяч у гадзіну.

**Глыбокае.** З педагогамі раёна сустрэўся міністр адукацыі Беларусі Сяргей Маскевіч, з 1 верасня большасць айчынных ВНУ пяройдуць на 4-гадовы тэрмін навучання студэнтаў.

**Лепель.** Двое рыбаловаў з надуўной лодкай для страхоўкі выратавалі жыццё мужчыне на возеры Жэжліна, ён праваліўся пад лёд і пачаў тануць, па вобласці выратавалі 6 чалавек.

**Паставы.** У чарговы раз райцэнтр стаў пераможцам рэспубліканскага агляду-конкурсу па добраўпарадкаванню сярод гарадоў краіны 3-й групы з насельніцтвам да 50 тысяч чалавек.

**Шуміліна.** Пры спробе абгону на дарозе ля вёскі Губіца на сустрэчнай паласе сутыкнуўся на аўто з МАЗам і загінуў 31-гадовы жыхар райцэнтра разам з 59-гадовым сваім земляком.

**Полацк.** У Сафійскім саборы да 11 мая прадоўжыцца чарговы Міжнародны фестываль старажытнай і сучаснай камернай музыкі, пройдуць 8 канцэртаў зорак з Італіі, Японіі.

**Віцебск.** На цокальным паверсе абласной дзіцячай бальніцы адкрылі спартыўную залу з трэнажорамі для юных пацыентаў, якія сталі папраўляцца пасля розных траўм і хвароб.

**Наваполацк.** Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала тут першы ў вобласці трэцейскі суд, які ўзначаліў дэкан юрыдычнага факультэта дзяржуніверсітэта А. Ягораў.

**Віцебск.** Дзіцячая музычная школа горада № 1 стала школай мастацтваў, ёй прысвоілі імя выдатнага беларускага кампазітара Багатырова, музыканта-віртуоза, аўтара вядомых опер.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Лынтупах каталікі паставілі містэрыю Крыжовага шляху

■ Кастусь Шыталь

**Вернікі парафіі Апостала Андрэя ў Лынтупах (Пастаўскі раён) паставілі тэатралізаваную містэрыю Крыжовага шляху.**

Набажэнства адбылося ў Вербную нядзелю, 1 красавіка.

"Містэрыя – гэта больш, чым тэатр. Містэрыя - на мяжы паміж тэатрам і літургіяй. Акторы не разыгрываюць, яны прадстаўляюць тое, што адбываецца. Такім чынам, увесь час захоўваецца атмасфера таямніцы, чагосьці глыбокага, да чаго трэба даспець, каб зразумець", - распавёў "Весткам" лынтупскі пробашч ксёндз Павел Кнурэк.

Традыцыя інсцэніроўкі шляху Хрыста на Галгофу сягае сваімі каранямі ў Сярэднявечча. У Лынтупах такая містэрыя адбываецца ўжо пяты раз.

Тэма сёлетняга Крыжовага шляху ў Лынтупах – перапрашэнне Бога за адыход ад веры ў кірунку варажбы і магіі. "Такім чынам мы хочам данесці да людзей, што небяспека прывязанасці да рознай чартоўшчыны вельмі сур'ёзная", - кажа ксёндз Павел Кнурэк.

Крыжовы шлях пачынаўся ад касцёла. Каля трохсот чалавек рушылі па местачковай вуліцы. Крыж наперадзе калоны неслі па чарзе і старыя, і малыя, і мужчыны, і жанчыны. Падчас прыпынкаў-стацый крыж узнімалі, а вернікі станавіліся на калені.

Гучала адмыслова падабраная музыка, якая дапамагала задумацца над шляхам Хрыста на Галгофу. Разважанні, загадзя запісаныя, агучваліся праз гукаўзмацняльную апаратуру.

Вернікі выйшлі за мястэчка, дзе Крыжовы шлях працягнуўся ў тэатралізаваным выглядзе на схіле пагорка. Акторы - мясцовыя вернікі – прадставілі Хрыстовыя пакуты. Падзенні, збіццё жаўнерамі, здзіранне вопраткі, укрыжаванне, смерць і пахаванне…

Містэрыя не скончылася сцэнай пахавання. На агляд вернікаў быў вынесены вялізны абраз Уваскрослага Хрыста. Гэтак зрабілі адмыслова, каб падкрэсліць, што пасля Укрыжавання было Уваскрасенне - Перамога над злом і смерцю…



Крыжовы Шлях. Справа - ксёндз Павел Кнурэк.







# Таямніцы прыдарожнай бетоннай глыбы

■ Яўген Самсонаў

**Ледзь прыкметныя бярозавыя пні і бетонавая глыба, якая ляжыць на абочыне шашы Глыбокае – Докшыцы ў вёсцы Чачукі Докшыцкага раёна, – маўклівыя сведкі жудасных падзей мінулага стагоддзя.**

**Трагедыя першая. Бой паміж бальшавікамі і польскімі жаўнерамі ў 1919 годзе.**

Як апавядалі мясцовыя старажылы вёскі Чачукі: Алена Канстанцінаўна Транчэўская (дзявочае прозвішча Залатуха), Аркадзь Мікалаевіч Ціцько, Міхаіл Іванавіч Глымушка і былая жыхарка вёскі Казлы Алена Уладзіміраўна Пятроўская, іх бацькі і дзяды апавядалі, што ў 1919 годзе ў гэтай мясцовасці адбыўся жахлівы бой паміж чырвонаармейцамі і польскімі жаўнерамі.

– Мой бацька, Канстанцін Мікалаевіч Залатуха, нарадзіўся ў 1893 годзе,– распавядае Алена Канстанцінаўна Транчэўская. Ён быў жывым сведкам і ўдзельнікам тых жахлівых падзей. Лінія абароны польскіх жаўнераў была трошкі далей, ля бору, але сышліся ў рукапашную менавіта тут. Там стаялі нават іх гарматы, а акопы, хоць і зарослыя, але – прыкметныя нават і цяпер. Калолі штыкамі адзін аднаго.Колькі чалавек удзельнічала ў бойцы – невядома. Перамаглі польскія жаўнеры. Затым сабралі мясцовае насельніцтва, у тым ліку майго бацьку і маці, загадалі выкапаць тры ямы, прыблізна па плошчы вясковай хаты кожная. Туды звазілі на падводах забітых. У ямы складвалі польскіх і рускіх салдат без разбору.

Усяго было пахавана каля 200 чалавек. Параненых польскіх жаўнераў і чырвонаармейцаў вазілі ў Параф'янава ў бальніцу ці шпіталь. Далейшы іх лёс невядомы.

У 1932 годзе, за «польскім часам», на гэтым месцы былі ўсталяваныя вялікі бетонавы крыж і мемарыяльная пліта з надпісам "Багатырам Войска Польскага, якія загінулі за Айчыну". Надпіс быў на польскай мове. Мясцовыя жыхары даглядалі і ўшаноўвалі месца пахавання воінаў, якія загінулі. У свой час да гэтага крыжа неаднаразова ладзіўся Хрэсны Ход і бралі ў ім удзел як католікі, так і праваслаўныя.



Алена Канстанцінаўна Транчэўская

**Трагедыя другая. Помнік вандалізму і бессардэчнасці.**

Падчас разгулу атэізму, а дакладней, свавольства камуністаў, помнік, асабліва крыж, вельмі замінаў у кар'ерным росце мясцовым чыноўнікам. У 1972 годзе падкіраўніцтвам парторга Віталя Талкачова помнік быў разбураны, а крыж па кусках быў зацягнуты цягачом на могілкі паблізу вёскі Казлы. Бярозкі спілавалі. Паблізу і амаль па месцы пахавання польскіх жаўнераў і чырвонаармейцаў гойсаюць саўгасныя трактары з плугамі, дыскамі, культыватарамі, баронамі і сеялкамі. Прычасціліся да гэтай бруднай справы і дарожнікі, рамантуючы шашу.

Знаходзіліся грамадскія актывісты і спрабавалі зрабіць захады па аднаўленні помніка, але не знайшлі падтрымкі і паразумення ў мясцовай улады па пытаннях фінансавання.

Прыязджала нейкая камісія з Мінска, абяцала правесці раскопкі і выправіць становішча, але прайшло шмат часу - і ніякіх зрухаў.

А тым часам па бойкай шашы імчаць машыны, фуры, турыстычныя аўтобусы з усёй Еўропы і ніхто не звяртае ўвагу на бетонную глыбу ля дарогі. А гэта ж наша Гісторыя!

У час правядзення даследвання аўтара гэтых радкоў уразіла адна акалічнасць. Многія з суразмоўцаў выказвалі свой погляд на вырашэнне праблемы, шмат гучала слушных прамоў і прапаноў, але не для дыктафона і відэакамеры. Яны пажадалі заставаца ананімнымі. Абыякавасць, на маю думку, **трэцяя трагедыя** нашага грамадства, ды, напэўна, вартая двух папярэдніх. Бо нездарма кажуць: не бойся ворага – у горшым выпадку ён цябе заб'е, не бойся сябра – у горшым выпадку ён здрадзіць, а бойся абыякавых – бо з іх маўклівай згоды адбываюцца забойствы і здрада.

**PS.** Аўтар матэрыяла звяртаецца да чытачоў і да ўсіх неабыякавых людзей за дапамогай у адшуканні арыгінальных здымкаў помніка ў Чачуках. Магчыма, яны ёсць у Вашым сямейным фотаальбоме. Зразумела, пасля капіравання, здымак будзе вернуты.
Загадзя ўдзячны.

# Мястэчка Глыбокае



■ Аляксандр Івашчонак,
бакалаўр гісторыі,
г.Нэапаль, Італія.

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Айцец Панкрацы Крушынскі

Постаць Кармэліта босага айца Панкрацыя ад сьв. Міхала з'яўляецца адной з найцікавейшых у гісторыі мястэчка Глыбокае ў XIX ст. Па сёньняшні дзень айцец Панкрацы зьяўляецца найбольш знаным манахам Кармэлітам для гісторыі, а дакладней адзіным манахам з Глыбокага, пра якога ведаем ня толькі тое, што ён зрабіў, але і таксама, дзе быў пахаваны і дзе знаходзіцца яго цела. Але ўсё па чарзе.

Айцец Панкрацы нарадзіўся ў 1795 г. у Марыямпалі, як занатавалі кляштарныя кронікі[1], быў ён "Ліцьвінам, шляхецкага стану, сынам Шымона".[2] Яго сьвецкае імя было Міхал Крушынскі. На жаль, больш на тэму яго дзяцінства нічога не вядома. У 1819 г. Міхал Крушынскі, пасьля таго, як закончыў два класы навукі, прыехаў у Глыбокае з мэтай стаць манахам Кармэлітам босым. Таму ўжо 27 сакавіка 1820 г. склаў манаскія шлюбы, прымаючы імя Панкрацыя ад сьв. Міхала. Брат Панкрацы вучыўся філасофіі ў Гародні[3], а таксама тэалогіі ў Вільні. Быў вельмі здольным у навуцы. У 1827 г. Панкрацы Крушынскі атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні і быў пераведзены ў глыбоцкі кляштар Кармэлітаў, дзе працаваў як выкладчык філасофіі для манахаў. Акрамя таго быў дарадцам прыёра.

У часе паўстаньня 1831 г. у Глыбокім, айцец Панкрацы не прыняў актыўнага ўдзелу ў паўстаньні, так як ужо аж 6 манахаў бралі ўдзел: сам прыёр айцец Уладыслаў Казакевіч, айцец Рамуальд Глінскі, айцец Нарцыз Валынскі і яшчэ брат Анзэльм Гурскі, брат Патрыцы Корсак і брат Ігнацы Руткоўскі. Хтосьці павінен быў застацца ў кляштары, каб манаскае жыцьцё функцыянавала там без праблемаў. Гэтая місія была ўскладзеная на айца Панкрацыя Крушынскага, які застаўся ў кляштары, працягваючы свае выкладаньне філасофіі для манахаў. У чэрвені 1831 г. менавіта айцец Панкрацы сустрэў і прыняў у кляштары генэрала Міхаіла Мураўёва. А каб задаволіць яго пыху даў яму той самы пакой, дзе быў прыняты Напалеон. Айцец Панкрацы ўсімі магчымымі спосабамі хацеў ўратаваць сваіх манахаў ад катаваньняў Мураўёва, таму ў ва ўсім хацеў яму дагадзіць, з гэтай прычыны ў некаторых паўстанцаў, якія бачылі айца Панкрацыя амаль заўсёды поруч Мураўёва, склалася думка, што ён быў яго паплечнікам (дарэчы сам Гэдэманн так піша), аднак гэта была няпраўда. Айцец Панкрацы хацеў паказаць Мураўёву, што манахі лаяльныя. Менавіта такая пастава айца Панкрацыя і ўратавала прыёра Казакевіча і айца Глінскага, а таксама вуніяцкага ксяндза з горада Глыбокага Скабалановіча ад кары, а глыбоцкі кляштар ад закрыцьця.

У ва ўсім гэтым была заслуга айца Панкрацыя Крушынскага. Пасьля выбараў новага глыбоцкага прыёра, якім стаў айцец Барталамей Брыдыцкі вельмі малады і энэргічны манах (невядома чаму Гэдэманн памылкова піша пра яго як пра няздольнага манаха), айцец Панкрацы стаўся эканомам кляштара, а пасьля і пробашчам глыбоцкага касьцёла Сьв. Тройцы.

У тым самым часе пачаліся рэпрэсіі вуніятаў[4] з-за іх удзелу ў паўстаньні 1830-1831 гг., якіх на Глыбоччыне было найбольш. Дарэчы аж да 1839 г. ані ў мястэчку Глыбокім, ані ў маёмасьці Кармэлітаў не было аніводнага праваслаўнага! Так, можа гэта здавацца неверагодным, аднак на Глыбоччыне аж да 1839 г. усе сяляне і большасьць мяшчан былі вуніятамі. На Глыбоччыне не было аніводнай праваслаўнай царквы – былі толькі вуніяцкія цэрквы і каталіцкія касьцёлы. А менавіта ў маёмасьці Кармэлітаў было аж 6 вуніяцкіх цэркваў: у Сьвіле, у Перадолах, у Кавалях, у Вальбаравічах, у Гнязьдзілаве – дзьве, якія пасьля 1839 г. былі перарobленыя на праваслаўныя.

> **Мястэчка Глыбокае ў 1842 г. спыніла сваё існаваньне – было далучана да горада Глыбокае.**

Ад 1835 г. царскі ўрад мэтанакіравана прысьпяшаў ліквідацыю вуніі і разам з вуніяцкім біскупам Сямашкам, хацеў далучыць вуніятаў да рускага праваслаўя. Глыбоцкія вуніяты упарта не жадалі прымаць праваслаўе. Дзеля гэтага ў Глыбокае асабіста прыехаў сам Сямашка, які быў незадаволены глыбоцкім вуніяцкім ксяндзом Янам Обухам, каторы быў вялікім праціўнікам рускага праваслаўя і быў добрым прыяцелям Кармэлітаў. Біскуп Сямашка аднак выгнаў Обуха за непаслухмянасьць царскай уладзе. У 1838 г. вуніяцкая царква сьв. Тройцы ў горадзе Глыбокім згарэла, а новы ўладальнік горада Глыбокага граф Вінгэнштайн, які быў праваслаўным, аднаўляючы царкву, вызначыў на пробашча сьвятара Стэфана Касецкага, які перайшоў з вуніяцтва ў праваслаўе (за здраду вуніяцтву Касецкі атрымаў ад царскіх уладаў тытул пратаіерэя, а таксама глыбоцкага благачыннага). Менавіта Касецкі быў прызначаны ўладамі для ліквідаваньня вуніі на Глыбоччыне, а з боку манахаў стаўся прызначаны айцец Панкрацы Крушынскі, якога абавязалі дапамагаць Касецкаму рэгістраваць усе вуніяцкія сем'і, якія мусілі былі быць гвалтам перапісаныя на праваслаўных.

Айцец Панкрацы, будучы эканомам кляштару Кармэлітаў, дамовіўся з пратаіерэям Касецкім, што ня будзе перапісваць вуніяцкія сем'і з кляштарнай маёмасьці на праваслаўных, а будзе іх перапісваць на католікаў. За гэта глыбоцкі благачынны жадаў ад айца Панкрацыя 50 рублёў за кожную перапісаную сям'ю, акрамя таго розныя харчовыя прадукты, а часамі жадаў ад айца Панкрацыя бочак з водкай, па якую езьдзіў для пратаіерэя Касецкага ў фальварак Янкі Міхаіл Пятух, адзін з першых праваслаўных у Глыбокім.

Вышэй сказанае вельмі добра ілюструе, як айцец Панкрацы дапамагаў "навяртаць" вуніятаў на праваслаўе.[5] Варта дадаць, што за прыхільнасьць пратаіерэя Касецкага да Кармэлітаў, айцец Панкрацы падараваў яму нават пару добрых коней.

Вяртаючыся да гісторыі, афіцыйна вунія была скасавана 25 сакавіка 1839 г. Усе вуніяты былі гвалтам перапісаныя на праваслаўных. Кляштар Базыльянаў у Беразьвеччы таксама стаўся праваслаўным. Аднак адзін з манахаў уратаваўся, хаваючыся ў кляштары Кармэлітаў, быў ім Базыльянін Інацэнты Білевіч.

У выніку далейшага перасьледу Каталіцкага Касьцёла, у 1842 г. была канфіскавана ўся касьцёльная маёмасьць, і ў тым ліку, і маёмасьць глыбоцкага кляштара Кармэлітаў босых. Кармэлітам улады пакінулі толькі 203 дзесяціны зямлі, з гадавой пэнсіяй для кожнага манаха 40 рублёў.

Мястэчка Глыбокае такім чынам у 1842 г. спыніла сваё існаваньне – было далучана да горада Глыбокае. Манахі Кармэліты былі пазбаўленыя сваёй эканамічнай магутнасьці, аднак айцец Панкрацы не намерваўся мірыцца з русіфікацыяй Глыбокага, якая ўсё больш пашыралася. Адным з галоўных элементаў русіфікацыі Глыбокага была новаўзьнікшая Праваслаўная Царква, якая складалася на 100% з перапісаных вуніятаў. Ад 1844 г. новым праваслаўным прыхадскім сьвятаром Глыбокага стаўся былы вуніят Флор Расінскі, які, будучы здраднікам вуніяцтва, стаўся яшчэ больш падатны на хабар і падкуп. Карыстаючыся гэтым, айцец Панкрацы выкупіў з праваслаўя яшчэ некалькі сем'яў былых вуніятаў, якія не жадалі быць рускімі праваслаўнымі, так як бачылі ў гэтым здраду ня толькі веры, але і радзіме[5].

Акрамя таго айцец Панкрацы падараваў праваслаўнаму прыходу ў Глыбокім новыя трэбнікі, якія, так па папраўдзе, былі каталіцкімі малітоўнікамі, падробленымі пад праваслаўныя трэбнікі. Праваслаўны сьвятар Флор Ражынскі не вельмі клапаціўся аб чысьціні праваслаўя ў Глыбокім, з гэтага карыстаўся айцец Панкрацы Крушынскі, таму большасьць "праваслаўных" спакойна магла хадзіць на набажэнства ў касьцёл.

Варта ўзгадаць лёс самога Ражынскага. Як ужо было сказана, ён, будучы вуніяцкім сьвятаром, гвалтам стаўся перапісаны на праваслаўнага бацюшку. Для яго гэта была асабістая жыцьцёвая трагэдыя, якую ён хацеў заглушыць у алкаголі. У 1861 г., вяртаючыся з былога Базыльянскага кляштара ў Беразвеччы пасьля гульні ў карты, Флор Ражынскі ў нецьвярозым стане зваліўся з каня і ўтапіўся ў беразьвецкім возеры. На жаль, такая жыцьцёвая драма спаткала вельмі шмат "праваслаўных" сьвятароў, перапісаных з вуніяцтва гвалтам.

Вяртаючыся да айца Панкрацыя Крушынскага, трэба зазначыць, што, на жаль, у 1859 г. гэты заслужаны для жыхароў Глыбокага манах, памёр. Як згадвала шмат сьведкаў, пахаваньне айца Панкрацыя было найбольш вялікім пахаваньнем у гісторыі Глыбокага. У пахавальнай працэсіі на могілкі Копцеўка прынялі ўдзел амаль усе жыхары мястэчка, і ня толькі каталікі і праваслаўныя, але таксама й габрэі. Шмат жыхароў Глыбокага яшчэ аж да часоў II сусьветнай вайны захавала памяць пра айца Панкрацы Крушынскага як пра сьвятога.

Некалькі год таму, мне разам з двумя міністрантамі з Глыбокага падчас прыбіраньня могілак на Копцеўцы, удалося знайсьці магілу і адчытаць напіс – *x. Pankracy Kruszyński, ur. 1796, + 1859 - кс. Панкрацы Крушынскі, нар. 1795, пам. 1859.*

У глыбоцкім касьцёле Сьв. Тройцы ёсьць таксама іншая памятная шыльда ў гонар айца Панкрацыя – *D. O. M. Pamięci W.J.X. Pankracego Kruszyńskiego Proboszcza Głębockiego ur. 1795, um. 1859 Przyjaźń tę pamiątkę poświęca 1860. – Богу Найлепшаму Найвялікшаму. Вяльможнаму Ягомосьцю Ксяндзу Панкрацу Крушынскаму Глыбоцкаму Пробашчу нар. 1795, пам. 1859 Сяброўства гэту памятку пасьвячае 1860.*

Такім чынам, айцец Панкрацы Крушынскі зьяўляецца адзіным з усіх глыбоцкіх манахаў, пра якога вядома, дзе дакладна ён пахаваны. Падсумоўваючы, варта падкрэсьліць вялікія заслугі айца Панкрацы ў ратаваньні глыбачанаў, веры і патрыятызму. Няхай узнагародай яму за гэта будзе вечная хвала ў небе і ўдзячлівая памяць у сэрцах жыхароў колішняга мястэчка Глыбокага.

**Заўвагі:**

[1] хроніка.

[2] Ліцьвін – гэта жыхар ВКЛ, а не літовец.

[3] інакш – Гродна.

[4] інакш – уніяты, альбо грэка-католікі.

[5] Сітуацыя прыналежнасьці да веравызнаньня была ня толькі справай сумленьня але і справай дзяржаўнай. Чаму? Бо, будучы ці вуніятамі, ці католікамі, ці нават мусульманамі, сяляне і мяшчане прыналежалі заўсёды да пана-ўладальніка. А ў выпадку мястэчка Глыбокага імі былі манахі. Ані хто ня мог зьмяніць веравызнаньня бяз згоды пана. Факт скасаваньня вуніі быў актам палітычным, таму ў адміністрацыйным парадку ішла перадача маёмасьці і душ. Таму перш за ўсё ўладальнік павінен быў пасьведчыць, што перапісаныя вуніяты сапраўды былі вуніятамі, бо ад моманту перапісаньня касьцёльны падатак ўжо плаціўся не кляштару а праваслаўнаму сьвятару. Тое самае з вуніяцкай царквой, напрыклад ў Кавалях, якая належала да Кармэлітаў, але пасьля скасаваньня вуніі царква не пераходзіла аўтаматычна праваслаўным, трэба было, каб уладальнік і той, хто прымае, разам пасьведчылі - Кармэліты, што перадалі, а праваслаўныя, што прынялі і гд., а пасьля ўлады мусілі ўсё гэта зацьвердзіць. Крушынскі, будучы эканомам, быў адказны за гэта ад боку ўладальніка, а пратаіерэй Касецкі - ад боку праваслаўя.



Кармэліт босы. Прыкладна так выглядаў айцец Панкрацы Крушынскі.







Магіла айца Панкрацыя Крушынскага на Копцеўцы.

